


2 стар.



Цыстэрна спірту

4-5 стар.



Улюбёны ў Беларусь

6 стар.

ПЛЮС TV

ТЫДНЁВІК ПАЎНОЧНА-ЗАХОДНЯЙ БЕЛАРУСІ

БРАСЛАЎ, ГЛЫБОКАЕ, ДОКШЫЦЫ, ПАСТАВЫ, МЁРЫ, ШАРКОЎШЧЫНА

# Вольнае Глыбокае

Выдаецца са снежня 1994 года | № 13(104) 28 сакавіка--3 красавіка 2002 года | Кошт па дамове

## ВЯЛІКДЗЕНЬ




*Вялікдзень (Пасха) – свята вельмі старажытнае. Яўрэі сталі святкаваць Пасху (Песах) у знак удзячнасці Богу за сваё вызваленне з няволі егіпецкага рабства. Тады Бог адсунуў перад сваім народам воды Чырвонага мора, гэтым выратаваў яго ад далейшай няволі,пры гэтым патапіўшы яго ворагаў. У сваім першапачатковым сэнсе гэта была ў адзін і той жа час і ахвяра, у якой самае нявіннае з жывёл (ягнё) прынасілася ў ахвяру за грахі людзей, і радасць у сувязі са збаўленнем ад рабства. У сваім вышэйшым значэнні яна была правобразам Пасхі хрысціянскай, дзе Хрыстос як нявіннае ягня быў прынесены ў ахвяру за выкупленне ад грахоў усіх людзей. Пасха хрысціянская азначае збаўленне ад рабства граху, трыумф вечнага над часовым. Яна святкуецца пасля дня вясенняга раўнадзенства, у першую нядзелю пасля поўнаты. У календары каталіцкай канфесіі яна прыпадае на перыяд з 22 сакавіка па 25 красавіка, у праваслаўных (у сувязі з несупадзеннем грыгарыянскага і юліянскага календароў) – з 4 красавіка па 8 мая.*

*Зміцер Лупач*

## На галоўным вакзале Мінска шукалі міну

З мінскага чыгуначнага вакзалу давялося тэрмінова эвакуаваць усіх пасажыраў і супрацоўнікаў вакзалу.

У 15.30 невядомы патэлефанаваў ва ўправу транспартнай міліцыі і паведаміў, што будынак вакзалу замініраваны. На вакзале працавалі антытэрарыстычнае злучэньне "Алмаз" МУС Беларусі і спэцаддзелы Міністэрства па надзвычайных сытуацыях, аднак выбуховага прыстасавання яны не знайшлі.

*«Радыё Свабода»*

## Акт вандалізму

**У ноч на 19 сакавіка невядомымі быў учынены здзек над кладамі могілак Фатынаўка ў мікрараёне Полацка Задзвінне.**

Вандалы пашкодзілі і зруйнавалі больш за 80 помнікаў і крыжоў. Па факту злачынства заведзена крымінальная справа. Міліцыя ўжо мае некалькі версіяў таго, што адбылося. Галоўная – на могілках "працавалі" хуліганы. Аднак, не выключаецца і варыянт, што "аўтарства" належыць сатанінскай секце. Аб гэтым сведчаць сагнутыя да самай зямлі крыжы, а менавіта так робяць з хрысціянскай сімволікай служкі культа сатаны. Па словах старшыні ГУУС Леаніда Калпакова – гэта самы вялікі акт вандалізму ў Полацку за апошнія 25 гадоў.

У Глыбокім дзейнасць сатаністаў не выяўлена, як, зрэшты, і іншых дэструктыўных сект. Тым не меней, на Беларусі шэрагі сектантаў множацца. Пра гэта сведчаць шматлікія ўлёткі з адпаведнай сімволікай, якія распаўсюджваюцца на канцэртах, клеюцца на сценах у сталіцы і іншых буйных гарадах. У Мінску ўжо шмат разоў муры старажытных храмаў "упрыгожваліся" пентаграмамі і інфернальнымі малюнкамі. 1995 год запомніўся брутальным рытуальным забойствам хлопчыка ў Брэсце.

Тым не менш, Беларусь яшчэ выглядае квола ў параўнанні з Расіяй. У нашай усходняй суседкі дзейнічае цэлы шэраг дэманічных сект, якія налічваюць, паводле розных ацэнак, ад пяці да некалькі дзесяткаў тысяч чалавек. У адной толькі Маскве існуе каля 15 сатанінскіх сект. Самыя вялікія і вядомыя з іх – "Чёрный ангел" і "Южный крест".

У асноўным групы сатаністаў пабудаваны паводле прынцыпаў жорсткай пяціступеньчатай іерархіі. Вышэйшым органам з'яўляецца савет. Часта на вышэйшыя ўзроўні абіраюць жанчын. Напрыклад, у "Чорным анёле", створаным каля 1974-1975 г.г., вышэйшая жрыца – жанчына. Як лічаць прадстаўнікі секты, менавіта прыгожая частка чалавецтва бліжэй да д'ябла.

Сатаністы актывізаваліся апошнім часам – гэта відавочна. 2 тыдні таму ўсе нямецкія тэлеканалы распавядалі пра жорсткае рытуальнае забойства, здзейсненая маладой парай у імя сатаны. У Германіі сатаністаў, як лічаць нямецкія аглядальнікі, каля 5 тысяч. І ў адрозненне ад амерыканскай царквы сатаны іх служэнне д'яблу мае куды больш радыкальныя формы.

Будзем спадзявацца, што гэта навала не закране наш рэгіён. Просьба ўсім, хто мае якую-небудзь інфармацыю пра Полацкае злачынства тэлефанаваць па тэлефонах **44 21 51, 44 26 32, 02. (23.03.2002).**

*А.Храпавіцкі*

## Лядовыя палацы й гіпэрмаркеты праглынаюць рынкі

Спажывецкі рынак на стадыёне "Трактар" у Мінску зачыняюць - дробных гандляроў "прыбяруць", каб збудаваць на месцы рынку чарговы лядовы палац. Неспакой і на сталічным рынку "Ждановічы": там ладзяць нейкую рэканструкцыю і пад сурдзінку скарачаюць колькасць гандлёвых месцаў. Невядомы лёс рынку "Дынама", які, паводле вельмі ўпартых чутак, таксама зачыняць. Дробных прадпрымальнікаў пакрысе выцясняюць, пазбаўляючы іх магчымасьці зарабляць грошы. Тым часам Мінгарвыканкам інфармуе пра свае планы набудаваць у горадзе гіпэрмаркетаў. Яшчэ зусім нядаўна казалі пра ўзьвядзеньне 9 вялікіх крамаў. Цяпер ходзіць погалас, што ў Мінску адвялі 15 пляцовак пад гіпэрмаркеты. Грошай на іх забудову, між тым, няма.

*«Радыё Свабода»*

## ЗША рыхтуюць санкцыі

Раздражненне Злучаных Штатаў з нагоды дэманстратыўных кантактаў афіцыйнага Мінску з прадстаўнікамі Іраку можа паскорыць разгляд пытання пра ўвядзенне санкцыяў супраць Беларусі. У цяперашні момант Дзяржэпартамэнт ЗША вывучае розныя варыянты - ад абмежаванняў у гандлі да забароны ўезду на тэрыторыю ЗША афіцыйным беларускім асобам. Паводле крыніцы Рацыі, цяпер вядуцца актыўныя кансультацыі Вашынгтону з Крамлём, які выступае ў ролі адваката афіцыйнага Мінску.

Падпісны індэкс на газету "Вольнае Глыбокае" -- 63668. Кошт падпіскі на месяц -- 1000 руб., на квартал -- 3000 рублёў.

Нагадваем, што наша выданне ўжо можна выпісаць і на Пастаўшчыне.

**Надвор`е*** Агляд складзены па дадзеных за 25/03/2002 0:00 GMT

| | 28/3 Чц | 29/3 Пт | 30/3 Сб | 31/3 Нд | 1/4 Пн | 2/4 Ат | 3/4 Ср | 4/4 Чц |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Тэмпература: з 14 гадзін | +3 | +6 | +5 | +10 | +14 | +16 | +15 | +10 |
| з 2 гадзін | -3 | 0 | +3 | +2 | +3 | +6 | +7 | +4 |
| Ціск, мм рт.сл. | 750 | 755 | 754 | 753 | 749 | 746 | 744 | 740 |
| Тэндэнцыя ціску | -1 | +3 | +9 | +6 | -3 | -3 | -1 | -5 |
| Накірунак ветру | Пн | Зах | Зах | Пд-З | Пд-З | Пн-У | Усх | Усх |
| Хуткасць ветру, м/с | 4 | 2 | 3 | 2 | 3 | 2 | 4 | 6 |

© Gismeteo.Ru

Заўвага: прагноз надвор`я ў нашым рэгіёне пададзены ў прывязцы да г. Полацка

*Фота У. Скрабатуна*



25 сакавіка ўся Беларусь адзначала 84 угодкі з дня абвяшчэння незалежнасці Беларускай Народнай Рэспублікі. Гэта падзея не абыйшла і Глыбокае. З гэтай нагоды актыў няўрадавых арганізацый Глыбоччыны, з дазволу мясцовай улады правёў пікет, чым пацвердзіў, што грамадства ведае і шануе слынныя даты сваёй гісторыі.

Акцыя адбылася з поўным паразуменнем праваахоўных органаў і ўдзельнікаў пікету.

*Я.Берніковіч*

## Да нас прыедзе госць

У свой час, "па службовых справах" Глыбокае наведвалі і вяльможныя асобы. У 1812 годзе (190 гадоў таму назад) тут на тыдзень спыніўся Напалеон, у 1930 г. завітаў прэзідэнт Польшчы Ігнацій Масціцкі. Бываў тут і кароль Рэчы Паспалітай Стэфан Баторый. Пазней, у гонар гэтай падзеі, в. Сяславіна перайменавалі ў Круляўшчызну, а ў Глыбокім з'явілася вуліца Крулеўска (Каралеўская), цяпер вул. Ф.Дзяржынскага.

Па Глыбокаму ходзіць чутка, што неўзабаве наш горад мусіць наведаць і Прэзідэнт Беларусі. Па звестках з дасведчаных крыніц, гэтыя чуткі маюць рэальныя падставы. Прэзідэнт наведае наш горад у гэтым годзе. Крыніцы, на жаль, не называюць дакладны месяц. Галоўнае, што падкрэсліваецца,-- для Глыбокага гэты прыезд будзе вельмі важны і патрэбны.

**Ул. інф.**

## Свята мінулае і будучае Волі

**Урачыстую імпрэзу да восемдзесят чацвёртых угодкаў абвяшчэння Беларускай Народнай Рэспублікі зладзілі ў Мінску 25 сакавіка. Ва ўрачыстасці ўзялі ўдзел вядомыя палітыкі ды культурныя дзеячы.**

Усё пачалося з гімну «Магутны Божа» ў выкананні хору «Вунія». Вяла вечарыну народная артыстка Беларусі Зінаіда Бандарэнка, якая летась перад выбарамі актыўна заявіла пра сваю грамадзянскую пазіцыю.

Урачыстая вечарына парадавала непрацягласцю выступаў і мінімальным патасам выступоўцаў, якіх ачоліў старшыня БНФ «Адраджэнне» Вінцук Вячорка.

# З якою вераю ідзём?

**Гэта сустрэча адбылася бадай што год назад. Так, ужо недзе ля года з дзіўнай рэгулярнасцю вяртае мяне памяць да той начной гутаркі ў Полацку. Спакойнай няспешнай і цвярозай гутаркі з чалавекам да гэтага незнаёмым.**

Да гэтага даводзілася ўжо чуць выказванні аб тым, што ў беларускім адраджэнцкім руху прысутнічаюць як бы дзве плыні. І пачатак гэтым плыням , як ручаіны рэкам, даюць дзве постаці: Ларыса Геніюш, Уладзімір Караткевіч. Не зусім пагаджаюся з такім досыць умоўным дзяленнем нашага нешматлікага асяродку адраджэнцаў. Але нешта ў гэтым ёсць.

У беларускім Пантэоне шмат імёнаў нацыянальнага маштабу. І справа не ў параўнанні вартасці той альбо іншай постаці. Але ў 70—90 гады менавіта імёны Геніюш і Караткевіча для творчай і калятворчай моладзі былі прыкладамі служэння нацыянальнай ідэі ( для многіх нават жывымі прыкладамі, бо паломніцтва да гэтых Паэтаў пры іх жыцці становілася духоўнай патрэбнасцю), паўставалі ўжо як сімвалы самой ідэі. Я тут выкарыстаў слова «калятворчай» не ў адмоўным сэнсе. Але так пачыналіся нашы шляхі да адраджэння, да ўспрыняцця дэмакратычных каштоўнасцяў — наперадзе выступалі не палітыкі і грамадскія дзеячы, а менавіта творцы. Сёння сітуацыя зусім іншая. І беларускага Гавела на чале дэмакратычнага руху не назіраецца.

Але вернемся да начной размовы. Мой субяседнік сцвярджаў, што плынь Караткевіча сёння, гэта не столькі падпарадкаванне высокай ідэі, колькі прага разняволення дзеля самаго разняволення, адчуванне свята перамогі ўжо сёння. Са зразумелым жаданнем і пасвяткаваць ужо сёння. Плынь жа Геніюш —гэта знітаванасць нацыянальнай ідэі з глыбокай рэлігійнасцю, разуменнем таго, што Божы пачатак у чалавеку важней за ўсё, непазбежным пэўным аскетызмам. Небяспрэчна? Так. Але…

Трэба дадаць, што той мой субяседнік у Полацку па веравызнанню ўніят. Пачынаў як вельмі актыўны сябра апазіцыі. Ён і сёння не памяняў сваіх палітычных поглядаў. Ды толькі сёння вельмі выгадна адрозніваецца ад многіх вядомых мне і паважаных мной сяброў апазіцыі душэўным спакоем, адсутнасцю той мітуслівасці і паспешлівасці ў думках і дзеяннях, якой грашым мы. Я б нават аднёс яго да людзей узнёслых, што ў апошні час сустракаецца ўвогуле рэдка.

Мае назіранні, канечне, не сягаюць у сталічныя офісы дэмакратычных партый і рухаў. А вось стасункі ў правінцыі назіраю шмат гадоў. Ды што там назіраю, да расколу ў шэрагах сацыял-дэмакратаў быў сябрам гэтай партыі і сёння як і большасць яе сяброў знаходжуся ў стане пераасэнсавання і выбару.

Як пачынала арганізоўвацца апазіцыя на раённым, напрыклад, узроўні? Адразу трэба сказаць, што на захадзе Віцебшчыны, які досыць добра ведаю па спецыфіцы ранейшай сваёй журналісцкай працы, далёка не ў кожным раёне ёсць згуртаваныя, афармленыя юрыдычна і неюрыдычна суполкі дэмакратычных партый і рухаў. Але там , дзе ёсць, усё пачыналася, як правіла, пад сцягам нацыянальнага адраджэння. Завадатарамі выступала мясцовая інтэлігенцыя, найперш творчая. Калі ідэя нацыянальнага адраджэння знікла з дзяржаўнай палітыкі, нехта адыйшоў у бок, большасць перайшло ў апазіцыю, да якой сталі далучацца людзі самага разнастайнага сацыяльнага стану, прыхільнасцей. Былі сярод іх і людзі яўна пакрыўджаныя існуючай уладай, былі і ёсць людзі, я б сказаў, авантурнага складу характару.

Мінулыя сем гадоў для апазіцыі на раённым узроўні не прайшлі марна. Афарміліся філіі партый і рухаў, пачалі выходзіць рэгіянальныя незалежныя выданні. Узмацнілася, гэтага нельга адмаўляць, сувязь паміж сталічнымі, абласнымі цэнтрамі апазіцыі і мясцовымі групоўкамі. Гады са два назад увогуле загаварылі аб пераносе асноўнай вагі гэтай дзейнасці найперш у правінцыю. Але чаго не з'явілася ў дэмакратычным руху правінцыі, як , уласна кажучы, і буйных гарадоў — гэта рэлігійнага стрыжню. Адвечная наша гаротнасць: разарванасць на дзве асноўныя канфесіі, між якімі ўсё ўладней укліняецца пратэстантызм. Калі праваслаўе падкрэслена падпарадкуецца Маскве, падкрэслена поўнасцю атаясамлівае сябе з існуючай уладай, то каталіцызм таксама падкрэслена нейтральны да палітыкі. Але гэта нейтральнасць не змякчае стаўлення да яго ўлады. Што ж, гэта апраўдана. Адзіны раён у Беларусі, дзе ў часы далёкіх ужо першых выбараў прэзідэнта рэспублікі перамог Пазняк — Браслаўскі на захадзе Віцебшчыны, дзе насельніцтва каталіцкага веравызнання пераважае. У астатніх раёнах гэтага рэгіёна яно прыкладна аднолькавае па адносінах да праваслаўя і каталіцызму.

Польскі паходжаннем Іаан Павел ІІ неяк напісаў: «Каталіцкая Царква адыграла на польскіх землях асобную ролю, калі гаварыць аб захаванні адзінства з народам… Епіскапы і святары ніколі не дазвалялі, каб царква падвяргалася русіфікацыі. Адзінства Царквы з народам, як для польскага народа, так і для Царквы, мела і мае да гэтай пары выключнае значэнне». Прымаючы з адабрэннем і разуменнем беларускую імшу ў каталіцкіх касцёлах на нашай зямлі, мы павінны помніць і гэтыя словы, павінны разумець, што касцёл не стане на Беларусі падмуркам дэмакратычнага руху, як гэта адбылося ў суседзяў. Што ж да ўніяцтва, то і яно, на мой погляд, па крайняй меры, у бліжэйшай будучыні не мае ў нас вялікіх перспектыў.

У маіх родных Паставах сёння тры храмы. Праваслаўны, які з дня свайго адкрыцця на пачатку мінулага стагоддзя не спыняў сваёй дзейнасці. Каталіцкі, зачынены пасля вайны і адваяваны яшчэ ў камуністычных улад вернікамі, калі ўлады гэтыя страчвалі сваю сілу. Пратэстанцкі, што паўстаў у сваёй немалой прыўкрасе, дзякуючы настойлівай руплівасці замежных фундатараў. У праваслаўным пераважаюць прадстаўнікі старэйшых пакаленняў. У каталіцкім прыкметна больш моладзі. Немала моладзі і ў пратэстанцкім. Але сярод вернікаў, пастаянных прыхаджан цяжка заўважыць прадстаўнікоў мясцовай апазіцыі. А яна ў нашым гарадку ў сваіх шэрагах мае ўжо нямала людзей. Па крайняй меры ў час апошніх выбараў незалежныя назіральнікі, якія рэкрутаваліся, канечне ж, найперш з сяброў апазіцыйных партый і рухаў, былі на ўсіх гарадскіх і большасці сельскіх выбарчых участках.

Увогуле, стан правінцыйнага апазіцыянера сёння без перабольшвання можна назваць «падважаным». У адрозненне ад свайго таварыша ў сталіцы ён знаходзіцца ва ўмовах значна «цяснейшых». Правінцыя адназначна выдзяляе ў катэгорыю апазіцыянера чалавека, які, думаючы інакш, адважваецца агучыць сваю пазіцыю. Спрацоўвае і лакальнасць местачковага грамадства, і тое, што мясцовыя ўлады, яшчэ не толькі не могуць, але і не ўмеюць цывілізавана будаваць свае адносіны з іншадумствам. Той жа, хто акрамя дыскусійнага апазіцыянерства праяўляе сябе яшчэ і нейкім дзеяннем, абавязкова трапляе ў спісы недобранадзейных. І прымяненне пэўных форм ціску да такіх людзей, нават да іх блізкіх, з'яўляецца ўжо адпрацаванай сістэмай. Таму генералы апазіцыі ў Мінску і губернях, якія абвяшчаюць курс на перанос дзейнасці ў правінцыю, павінны помніць гэта. Прывыкшым ужо думаць буйнымі катэгорыямі, прывыкшым да таго, што ім, у іх умовах, значна лягчэй з-за наяўнасці важкай юрыдычнай дапамогі, дапамогі прэсы, ім трэба разумець, што любая акцыя, любое пачынанне ў правінцыі павінна быць забяспечана і пэўнай абаронай кожнага чалавека, які пераходзіць да актыўных дзеянняў. Прывяду толькі адзін прыклад. На апошніх выбрах я быў назіральнікам на адным з вясковых выбарчых участкаў. Мяне накіравала туды Таварыства беларускай мовы. Разам са мною назіранне здзяйснялі яшчэ два прадстаўнікі грамадскіх арганізацый. У дні папярэдняга галасавання ніякіх пытанняў не ўзнікала. А вось 9 верасня перад самым адкрыццём выбарчага ўчастка і ад'ездам з яго двух аўтамабіляў з пераноснымі скрынямі для галасавання, старшыня выбарчай камісіі аб'явіў, што гэтыя два прадстаўнікі грамадскіх арганізацый ад назірання адхіляюцца. Прычына ў няправільным афармленні накіраванняў на назіранне ў сталіцы. Дзеянні ўлады тут зразумелыя. Само назіранне такім чынам губляла свой сэнс, бо аўтамабілі па вёсках паехалі без прадстаўнікоў незалежных арганізацый. Але ёсць жа і чыста псіхалагічны аспект. Два чалавекі апынуліся на ўзбочыне ў самы адказны момант. Нават прысутнасць іх на ўчастку па закону забароненая.

Наколькі я разумею, мясцовыя ўлады ў правінцыі ўжо зрабілі з працэсу мінулых выбараў адпаведныя вывады. Ды самі выбары правялі своеасаблівы «агляд радоў» апазіцыйных сіл. І наперадзе людзям спатрэбіцца нямала сіл, вытрымкі, нават мужнасці ў адстойванні сваіх правоў. Дапамога сталіцы, канечне, патрэбна. Але вельмі дапамагла б людзям і вера. Якая ніколі не пакідае чалавека сам на сам з жыццёвымі нягодамі.

*А.Касцень*

# Чуткі некалі могуць спраўдзіцца

**Да нас неаднойчы звярталіся жыхары Шаркоўшчынскага раёна з адзіным пытаннем: "Ці праўда, што наш раён будуць касаваць і далучаць да Глыбоцкага раёна? У нас усе штодня аб гэтым гавораць".**

Як сцвярджаюць навукоўцы, назва мястэчка Шаркоўшчына паходзіць ад прозвішча Шарко. Само прозвішча паходзіць ад мянушкі "Шарко", г.зн., чалавек, які шаркае, ці прасцей, кульгае. Гісторыя адыграла з Шаркоўшчынай калі не злую ролю, дык, зласлівую, дакладна. На думку многіх, Шаркоўшчына і яе адміністрацыйны раён, успрымаюць як незаконна народжанае дзіця. Асабліва гэта актуальна сёння ў рынкавых умовах. Неперспектыўны, маленькі раён утрымлівае поўны штат раённых чыноўнікаў, міліцыі, ваенкамата, і іншых дробных падраздзяленняў кіравання, якія цяжарам кладуцца на бюджэт. У той жа час не хапае сродкаў, каб аплаціць заробкі настаўнікаў, урачоў і астатніх, хто ўтрымліваецца за кошт бюджэту.

Я доўгі час пражыў у Латвіі. Прыязджаючы дадому, у Глыбокае, я часта казаў сваім знаёмым, што нам яшчэ доўга ісці да ўзроўню любога латышскага гарадка. І заўсёды ў адказ я чуў адно й тое: "Ты яшчэ не бачыў Шаркоўшчыны і Мёраў! Тут няма чаго параўноўваць! Глыбокае проста сталіца!" Згадваецца, што жыхары Даўгаўпілса празвалі адзін з раёнаў горада "Шаркоўшчынай". Яго насельнікамі былі, у асноўным, выхадцы з паўночна-заходняй Беларусі. Але ж яго не назвалі, хоць і жартам, "Паставамі", "Глыбокім", ці "Браславам"! Усю некультурнасць, неахайнасць, безгаспадарчасць яго жыхароў спісалі на "кульгавую" Шаркоўшчыну.

Мы нядаўна наведалі Шаркоўшчыну. Уражанне было блізкае да шоку і не таму, што нам вузел паштовай сувязі адмовіў у заключэнні дамовы на падпіску "Вольнага Глыбокага". Мы абыйшлі ўсе крамы, якія можна было абыйсці. Уражанне такое: мы патрапілі ў 1991 год! Пустыя крамы, як прыватныя, так і дзяржаўныя. Ляжаць, праўда, на паліцах нейкія "снікерсы" і "марсы", пару гатункаў кавы, саўдэпаўскае пячэнне, цыгарэты "Прыма", яшчэ нешта. Але, агульнае ўражанне — пустэльня.

У цэнтры паселішча, насупраць чатырохпавярховага адміністрацыйнага будынка, скверык. Туды, напэўна, з восені, завезлі чарназём. Можа, задума і някепская, прывезці да ладу скверык. Але, так і кінулі ў кучах, не, не разгарнуўшы бульдозерамі. Цяпер (тады на сярэдзіну сакавіка) кучы зямлі сталі плацінай для талых вод, у скверыку па калена вады. Трапіўшы ў яго, мы аніяк не змаглі яго прайсці, давялося вяртацца назад. З адміністрацыйнага будынка сыпіцца долу абліцовачная плітка і ён зіхаціць плямамі, нібы яго пабіла асколкамі пасля натаўскага бамбавання. Колькі ні шукалі мы ў абедзенны час якую-небудзь забягайлаўку, каб з"есці нейкі піражок з чаем — усюды зачынена. Параілі ісці ў "Белорусское бистро".

— У нас кавы нет, а есть только кофе,— кажа жанчына за стойкай бара. На нашу заўвагу, што на шыльдзе напісана "Белорусское бистро" і вы павінны ведаць, не толькі, што такое кава, але, як і ў Глыбокім, напісаць меню па-беларуску, жанчына, не прывыкшая чуць заўвагі, адрэагавала нервова, ледзьве не шпульнуўшы на паліцу рэшту.

Тады падумалі: "А навошта нам такое шчасце? Лепш гэтую Шаркоўшчыну забярэ да сябе Браслаў ці Мёры. Мы забярэм, лепш, Докшыцы..."

І ўсё ж, на сакраментальнае пытанне: "Ці далучаць Шаркоўшчыну да Глыбоцкага раёну?"— адказ ёсць.

Як падцвердзілі нам знаўцы гэтай праблемы, гэтакі зыход цалкам верагодны, калі не сёння, дык гады праз тры, ці пяць, дакладна. Калі не пры гэтым прэзідэнце, то пры наступным.

Справа ў тым, што такая сітуацыя аформілася вельмі даўно, яшчэ пры Саюзе, калі ў Глыбокім узніклі буйныя рэгіянальныя прадпрыемствы, накшталт прадпрыемства электрычных сетак, камбікормавы завод, малочна-кансервавы і г.д., у сферу ўплыву якіх увасходзяць шэсць раёнаў паўночнага захаду Беларусі.

Распрацоўка такога праекту вельмі інтэнсіўна вялася з набыццём незалежнасці Рэспублікі Беларусь, асабліва ў часы С.Шушкевіча.

Калі гэты праект некалі здзейсніцца, то, магчыма, у нас не стане абласнога дзялення, а краіна будзе падзелена на некалькі акруг (паветаў). Замест Віцебскай вобласці могуць з"явіцца Глыбоцкая, Полацкая, Аршанская і Віцебская акругі. Узрасце роля невялікіх мястэчак, якія стануць цэнтрамі гмін (валасцей).

Калі падсумаваць гэтую тэму, то жыхарам Шаркоўшчынскага раёна, можна адказаць адназначна: чуткі не пазбаўлены падстаў.

*Ул. Скрабатун*




Глыбокае.
Від на гістарычную частку горада.
На пярэднім плане -- Троіцкі касцёл, на заднім -- Кафедральны сабор.

## А потым – суп з катом

Студзеньскую зарплату ўсім 47 агульнаадукацыйным школам Пастаўскага раёна з цяжкасцю выдалі да 28 лютага. Месячны фонд зарплаты для 1080 педагогаў раёна склаў 212 млн. рублёў і аказаўся непад'ёмнай ношай для мясцовага бюджэту. Паступленняў у бюджэт мала і, калі аванс за люты атрымаецца выдаць, то далейшая дзейнасць пакрыта цемрай. Даўгі школ раёна за электраэнергію, харчаванне і іншыя паслугі перавысілі ўжо 975 млн. рублёў. Другі год запар школы ацяпляюцца бясплатна, запазычыўшы за паліва 610,8 млн. рублёў, а з лістапада будынак аддзела адключаны ад падачы элекраэнергіі. Ці мэтазгодна гаварыць аб устойлівым развіцці школы XXI стагоддзя, калі зарплату настаўнікам плаціць няма чым?

*Уладзімір Шык*

*ЛІСТЫ НАШЫХ ЧЫТАЧОЎ*

## Адкуль бяруцца такія высокія расцэнкі за месца на рынках Глыбокага?

**Набываеш сваю палатку для таго, каб снег і дождж не папсаваў тавар, і за свой жа дах плоціш, як на крытым уцепленым рынку. Напрыклад: за 2-мятровую палатку - 3200, а калі палатка 2,5 метра -- ужо 5630. За месяц набягае вялікая сума. Атрымліваецца так, што сам сабе ствараеш умовы для работы, а «рынак» толькі лічыць грошы і ўхмыляецца. Увогуле, на цэнтральным рынку палова тэрыторыі не заасфальтавана. Гандляры вымушаны працаваць па калена ў гразі, а пакупнікі ходзяць як па балоту. І нікому няма справы.**

***Прыватныя прадпрымальнікі: Акбірава, Кудзіна і іншыя***

# Не трэба гуляць у небяспечныя гульні

**Загадам Прэзідэнта РБ №516 ад 24.09.2001 г. "Аб удасканаленні сістэмы рэспубліканскіх органаў дзяржкіравання" Дзяржаўны камітэт фінансавых расследванняў далучаны да Камітэта дзяржаўнага кантролю і ператвораны ў Дэпартамент фінансавых расследванняў Камітэта дзяржкантролю.**

Аб дзейнасці гэтай установы ў нашым горадзе нам паведаміў старэйшы інспектар Глыбоцкага міжраённага аддзела фінансавых расследванняў капітан фінансавай міліцыі Сяргей Дзмітрыевіч Грыневіч.

-- Раскажыце, калі ласка, аб асноўных задачах Дэпартамента.

-- Гэта перш за ўсё папярэджванне, выяўленне і спыненне правапарушэнняў у сферы эканамічнай дзейнасці; правядзенне папярэдняга расследавання крымінальнай справы ў гэтай сферы; забеспячэнне ўласнай бяспекі і ахова службовых асоб, органаў дзяржкантролю пры выкананні імі сваіх службовых абавязкаў.

- Чым дзейнасць вашай арганізацыі адрозніваецца ад дзейнасці падатковай інспекцыі?

-Падатковая інспекцыя займаецца праверкай правільнасці выплаты падаткаў. У нашы паўнамоцтвы ўваходзіць расследванне фінансавых злачынстваў, узбуджэнне крымінальных спраў.

- Якая сфера дзейнасці Глыбоцкага міжраённага аддзела ўпраўлення Дэпартамента фінансавых расследаванняў КДК РБ па Віцебскай вобласці?

- У сферы дзейнасці нашай установы знаходзіцца пяць раёнаў: Глыбоцкі, Шаркоўшчынскі, Докшыцкі, Браслаўскі і Пастаўскі.

- Цішмат правапарушальнікаў жыве ў нашым рэгіёне?

- Вельмі шмат. За мінулы год па выяўленых нашымі супрацоўнікамі фактах парушэнняў заканадаўства аб падатках узбуджаны 22 крымінальныя справы ў адносінах да індывідуальных прадпрымальнікаў і службовых асоб суб'ектаў гаспадарання. За два апошніх месяцы (студзень-люты 2002 года) узбуджаны 4 крымінальныя справы, дзве з іх накіраваны ў суд.

- Якія найбольш распаўсюджаныя парушэнні?

- Гэта заняцце гаспадарчай дзейнасцю без адпаведнай рэгістрацыі, ухіленні ад аплаты падаткаў, незаконны абарот валюты і іншыя эканамічныя злачынствы.

Так, жыхар Глыбокага П. рэалізоўваў Шаркоўшчынскаму каапнарыхтпраму сала з Польшчы, не маючы на тое дазволу і не з'яўляючыся прадпрымальнікам. Супраць яго ўзбуджана крымінальная справа па арт. 233 ч.2 Крымінальнага кодэксу РБ, па якім ён і быў асуджаны.

Жыхар Пастаў Х. на працягу доўгага часу, выкарыстоўваючы пячаткі і дакументы магілёўскіх фірм-адназдёнак, рэалізоўваў нафтапрадукты на тэрыторыі некалькіх раёнаў. Па выяўленаму факту было ўзбуджана 7 крымінальных спраў. Цяпер яны разглядаюцца ў судзе Глыбоцкага раёна. У судаводстве знаходзіцца і справа ў адносінах да жыхара Глыбокага Ш., які займаўся незаконнай банкаўскай дзейнасцю – выдаваў грамадзянам крэдыты, не маючы на тое адпаведнага дазволу. Дарэчы, зараз ён знаходзіцца ў вышуку.

Яшчэ ў гэтым годзе канфіскавана 34 000 пачак цыгарэт на суму папярэдняй ацэнкі – 11 тысяч долараў. Хочацца сказаць і пра такіх правапарушальнікаў, як "гоншчыкі машын". Яны "ганяюць" машыны з-за мяжы і афармляюць іх на іншых асоб. Няхай яны ведаюць, што іх дзеянні не застануцца беспакаранымі. Супраць іх будуць узбуджаны крымінальныя справы па арт. 233 ч.3 КК РБ, які прадугледжвае пакаранне ў выглядзе пазбаўлення волі ад 2 да 7 год з канфіскацыяй маёмасці.

- Ці бывае так, што вам прыходзіцца затрымліваць правапарушальнікаў са зброяй, у масках?

- Не, ніколі. Увогуле, у нас няма масак, у гэтым няма неабходнасці.

- Калі б хто-небудзь з выпускнікоў школ пажадаў бы атрымаць Вашу прафесію, якую адукацыю трэба яму набыць?

- Вышэйшую юрыдычную або эканамічную адукацыю.

- Заканчваючы размову, што б Вы хацелі сказаць усім нашым чытачам?

- Я б хацеў выказаць такія словы. Не трэба гуляць з дзяржавай у небяспечныя гульні. Нікому не пашанцуе пазбегнуць адказнасці за здзяйсненне падатковага злачынства. У нашай службы дастаткова для гэтага сродкаў і магчымасцяў.

Інтэрв'ю правяла
***Т. Смоткіна.***

# Цыстэрна

## Тры дні местачковага тлуму

**Гісторыя гэта сапраўды мела месца ў адным з мястэчкаў на захадзе Віцебшчыны. Але ў тыя часы пра такое пераважна маўчалі. Нават калі праз пэўны час адбыліся судовыя працэсы і асобныя грамадзяне вымушаныя былі адправіцца ў месцы, як кажуць, не зусім аддаленыя. Мясцовая прэса сарамліва адвярнулася ад фактаў, не выкарыстала рубрыку « З залы суда». А чуткі між тым распаўсюджваліся па наваколлі, абрасталі новымі, падчас неверагоднымі дэталямі. Так што сёння дакладна аднавіць падзеі ўяўляецца немагчымым, бо і судовыя дакументы гавораць аб тым, што разбірацельства было паспешным, каб толькі хутчэй закрыць справу, ну і прадставіць некалькіх вінаватых. Так што і гэта апавяданне не можа прэтэндаваць на поўную дакладнасць, яго мэта найперш - аднавіць атмасферу тых слынных трох дзён у невялікім мястэчку.**

### Дзень першы

Гэтай раніцай Мар'яну, можна сказаць, пашанцавала. Толькі прачнуўся, а ў хату ўжо грукала суседка, за тры хаты ад яго, бабуля Альдона.

-- Уставай, Мар'яне, расчухвайся. Работа табе ёсць.

-- Якая такая работа?

-- Бульбу мне даарэш. Так што запрагай сваю Дашку і да мяне на гарод.Бутэлька будзе.

Бутэлька гэта, канечне, добра. Праз хвілін дзесяць Мар'ян ўжо агорваў першую баразну на бульбянішчы. Старая Дашка ішла паслухмяна і няспешна. Карміцелька, у каторы раз падумаў пра яе Мар'ян. Сапраўды, кабыла і хата адзінае, што заставалася ў яго з «нерухомай і рухомай» маёмасці. Хата, канечне, прытулак, толькі вось дроў зімой не напасешся. А Дашка ад ранняй вясны да позняй восені давала Мар'яну сталы заробак. На добрых паўмястэчка быў ён безадмоўным памочнікам бабулям і дзядулям, якія з апошніх сіл, але абраблялі для сябе кавалкі зямлі. Абрабляў, уласна кажучы, Мар'ян, а яны толькі садзілі, палолі, капалі. З гэтага ў асноўным і жыў. Бо праца часовага грузчыка на невялікай чыгуначнай станцыі ў іх мястэчку вялікага заробку не давала. Ну а сена накасіць на кабылу па ўзмежках ды кустах праблемы не складала.

Скваппая Альдона не запрасіла дапамагчы нікога з суседак, падбірала выараную бульбу адна, таму невялікі кавалак бульбянішча парадкавалі доўга, ледзь не да палудня. Мар'ян раз-пораз спыняў Дашку ў баразне, чакаў, пакуль старая збярэ бульбу. Потым адагнаў кабылу ў свой хлеў. Памог Альдоне знесці ў прывень мяхі з бульбай.

Атрымаўшы бутэльку мутнаватай, але моцнай - вопыт падказваў -- самагонкі накіраваўся дадому. Хлеб, цыбуліна, кавалак шэрага сала, які застаўся ад нейкага заробку таксама з Дашкай у плузе. Спачатку думаў проста выпіць шклянку для млосці ў душы. Але не заўважыў, як агарнуў усю бутэльку. Потым і ў ложак урыўся...

Прачнуўся ад таго, што нехта трос яго за плячо. У хаце ўжо вячэрні змрок, не адразу ўгледзеў над сабою твар дружбака Івана, былога саўгаснага ветурача, якога пастаянная наяўнасць ў аптэчцы спірту, а ў гаспадароў хворых жывёлін іншых адмысловых напояў хутка нізрынула з гэтай пачэснай пасады да стану такога ж часовага грузчыка на мясцовай станцыі.

-- Ну ці прачнешся ты, п'янюга.

-- А колькі часу?

-- Вечар ужо, самае тое. Трэба збірацца.

-- Куды збірацца?

-- А вось гэта ўжо ты ўбачыш, ты, браток, такое ўбачыш, што ўвесь сон здыме. Пайшлі за мной. І, ага, трэба посуд прыхапіць і які пабольш.

Мар'ян убачыў ужо, што Іван на добрым падпітку, але не азызлы як заўсёды, а наадварот вясёлы і нават бадзёры. Відаць, у прадчуванні таго, што ёсць недзе надтачыць.

-- Ну вунь на стале пустая бутэлька, там і корак.

-- Што? Бутэлька? Не смяшы мяне, сябручок мой заспаны. Тут не пра бутэльку размова.

-- Ну, у куце вунь яшчэ са дзве.

-- Са дзве?.. -- Іван пагардліва махнуў рукой.

-- Ды што табе вядро трэба? Па бражку пойдзеш?

-- Якая бражка, дурань. Хаця вядро -- яно і ніштo. Дзе яно тут у цябе.

Іван пачаў бразгатаць у цёмных кутах хаты. Потым прыціх.

-- Мар'ян, а помніш, у цябе недзе малочная ,біклага была, на сорак літраў?

-- Стаіць недзе, ды навошта яна табе?

-- Вось яна, вось яна, нам, міленькая, якраз і дараіць. Выцягваем і ідзем.

-- Куды?

-- Да засекаў радзімы ідзем, дарагі, да мора разліванага.

Мацюкаючы пра сябе Івана, які з п'яну прыдумаў нейкую авантуру, Мар'ян усё ж выцягнуў з кладоўкі запыленую, усю ў павуціні біклагу, выйшаў за сябруком з хаты. Прымыкаць яе не было чым, ды і нічога ў ёй ужо не заставалася.

Цемра ахутала невялікую чыгуначную станцыю, якую смела можна было назваць і паўстанкам. Ні месяца, ні зорак, толькі некалькі цьмяных ліхтароў высвечвалі штрышкі рэдкага асенняга дажджу. На рэйках у тупіку дожджык ціха стукаў па некалькіх чыгуначных цыстэрнах, загнаных сюды яшчэ зранку. Ля адной з іх нешта адбывалася. Даносіліся прыглушаныя галасы, раз-пораз бразгала жалеза аб жалеза. Вось нехта паслізнуўся на адкосе насыпу, з мацюкамі паехаў уніз, абдзіраючы рукі аб шчэбень.

-- Асцярожней боўдзіла. Табе ж сказалі -- моўчкі!

-- Як тут не ругнуцца, цэлае вядро разліў, - апраўдваўся нехта з-пад насыпу.

Калі б старонні наглядальнік, пастаяўшы ціха, прыглядзеўся да гэтай мітусні, ён бы дацяміў. Купка людзей ля адной з цыстэрн займаецца тым, што, адчыніўшы верхні люк, чэрпае вядром з прывязанай да яго вяроўкай, нейкую вадкасць і разлівае ўжо на палатне гэту вадкасць у самыя разнастайныя ёмістасці: вёдры, бочкі, біклагі, каністры, нават выварки. Бруенне ля цыстэрны людзей мае нават нейкую сістэму. Вось некалькі чалавек адсмакталіся ад крыніцы немаведама чаго, зніклі ў цемры навакольных хмызнякоў, але тут жа іх месца займае новая партыя. Час ад часу мяняецца на самой цыстэрне і той, з вядром і вяроўкай. А калі б можна было прыглядзецца яшчэ ўважлівей, то на адкосах палатна, на сцяжыне, што вілася каля чыгуначнага пуці, заўважыліся б і іншыя людзі, якія раскінуліся на шчэбені і траве ў самых вольных расслабленых позах. Нібыта нечаканая слабасць заспела іх тут, альбо нейкі паморак напаткаў.




Іван з Мар'янам ўсцягнулі сваю малочную біклагу на палатно якраз тады, калі трое няцвёрдых на нагу мужыкоў адвальваліся ад цыстэрны. Аблапіўшы з усіх бакоў паласаты надзіманы матрас, на якім любяць плаваць сярод возера малодзенькія кабеты, падстаўляючы сонцу і навакольнаму люду свае прыўкрасы. Вось толькі ў матрасе было не паветра, там нешта булькала і плёскала, вымушаючы мужыкоў аж прагінацца ад цяжару.

-- Што гэта, - не разумеў яшчэ Мар'ян.

-- Спірт, дурань. Пустую тару на наш спіртзавод прыгналі, як звычайна ў тупік. А тут хлопцы не дурні, адчулі, што адна цыстэрна не раскачаная чамусьці. Хопіць! Наперад, на спіртавыя склады!

Дачакаўшыся сваёй чаргі, Іван залез на цыстэрну, зачэрпнуў і падаў Мар'яну першае вядро. Той прыняў яго. Спецыфічны водар ударыў у нос. Але Мар'ян, збянтэжаны ўбачаным, яшчэ не мог даць поўнай веры, такому шчасцю. Нахіліўся і глынуў цьмянай у начы вадкасці. Дыханне заняло. Спірт! Сапраўдны спірт!

-- Вылівай хутчэй, - Іван ужо тузаў за вяроўку.

Біклагу яны налілі хутка, саступілі месца новай камандзе. Потым доўга цягнуліся праз хмызнякі да Мар'янавай хаты - усё-такі сорак літраў.

-- Сядзем у цябе, бо мая жонка нас у гэтым спірце і прытопіць, -- гаварыў Іван, - насцярожана азіраючыся па баках. Але ноч, асенняя і цёмная была без аніякіх пагроз.

### Дзень другі

Прачнуўся Мар'ян, ад таго, нібы яго калатнула токам, пры гэтым балюча ўдарыўся галавой аб нешта металічнае. Узняў галаву. Насупраць яго сядзеў і гэтак жа ўтрапёна глядзеў на Мар'яна Іван. Нейкую хвілю маўчалі. Потым адначасова пачалі паводзіць галовамі вакол. Ляжаць на падлозе, засыпанай шалупіннем цыбулі, скарынкамі. І біклага, вось яна -- у іх нагах.

-- Добра, што не абярнулі.

-- Абернеш ты поўную, - Іван ускараскаўся на калені, зазірнуў у гарлавіну. -- Нібыта і не пілі. Поўненькая.

-- Спірт, колькі ты яго віп'еш.

-- Ага. Вось гэта ўдача. Каб можа яшчэ які посуд.

-- Ды і ад гэтага згарым без закусі. Сходзіў бы ты, Іван, дадому, прынёс якой ежы. Смажыць. Дзе ў цябе вада?

-- Не пі вады, зноў ляжаш, ведаеш як гэта на спірт.

-- Схадзі па Марыка, хай і ён прыкладзецца.

-- Твой Марык раней за мяне ўчора прыклаўся. І з сабою папёр. Гуляе ўся наша басота. Праўда, пайду па закусь. А ты, Мар'ян, паразлівай флягу куды ёсць, потым яшчэ раз сходзім да невычэрпнай крыніцы...

Асцярожна, выпрабоўваючы свой арганізм, Мар'ян выпіў паўшкляначкі спірту і пачаў вырашаць праблему з апаражненнем флягі. Бутэлек у хаце не было, калі заводзілася якая, то адразу ішла на здачу. Трэба прыдумаць нешта іншае. Ён пароўся на кухні, выходзіў у кладоўку, у хлеў да Дашкі. Праз нейкую гадзіну з'явіўся Іван з добрым іх знаёмым Сяргеем.

-- Ну во, закусі прынёс. Галоўнае гуркоў салёных. Жонка, канечне, скавытала. Добра што мы да мяне не занеслі - выліла б. А, слухай, Сяргей, толькі з аўтобуса - не верыць. Не верыць, што ў нашым мястэчку баль такі. А ну, Мар'ян, нясі свой запас. Бачу, што біклага ўжо парожняя.

Мар'ян, добра ап'янелы, патоўкся ў хаце, выйшаў на панадворак. Убачыў ля калодзежа поўнае вядро. Я ж гэта Дашку так і не папаіў. Ён падхапіў вядро, пайшоў у хлеў. Дашка праз зыгарадку пацягнулася мордай да гаспадара. Але на працягнутае вядро фыркнула, адвярнулася.

-- Не хочаш? -- Мар'ян яшчэ раз ткнуў вядро кабыле ў морду.

Але тая зноў адступіла.

Мар'ян п'яна ўставіўся ў вядро, потым лізнуў. Так і ёсць. Спірт. І сюды ён спірту лінуў, вар'ят. Моўчкі ён панёс вядро ў хату, паставіў яго на стол паміж Іванам і Сяргеем.

-- Хоць заліцеся.

-- І гэта ўсё спірт? - пляснуў у ладкі абамлелы Сяргей. А божачка ж ты мой, а ласка ж божая...

Зноў пачынала хутка пасенняму шарэць калі яны утрох выкуліліся з хаты, цягнучы з сабою бліскучую, аблітую спіртам біклагу. Але калі падышлі да цыстэрны,

# $C_2H_5OH$ спірт

то ўчарашняга тлуму тут ужо не было. Рэй вялі не ўчарашнія смактуны, якіх, праўда, і сёння наўзбоч было нямала і ўсе покатам. Працавалі над верхнім люкам цыстэрны людзі спраўныя. Тут жа, на сцяжыне стаяла некалькі вазоў, запрэжаных конямі. У вазах ладныя бочачкі літраў гэтак на дзвесце і больш. На адной з бочак Мар'ян убачыў нейкую дзіўную аборку. Памацаў рукой. Цэмент. Так і ёсць: гаспадар з-за адсутнасці посуду выламаў яе з уласнай лазні.

Прабіцца блізка да цыстэрны нашай тройцы не далі. «Куды прэцеся, п'янюгі. Мала вам?» «Тут чарга ад абеду. А яны пруцца». «Пётра, плісні ты ім з вядзерца, хай чакаюць, не сумуюць…»

Мястэчковы ўчастковы інспектар Альбін Вайцецкі сядзеў у сваім кабінецiку ў глыбокім задуменні. Другі дзень яго мучылі падазрэнні, у галаве роіліся розныя варыянты і версіі. Але рашэння знайсці ён так і не мог. Мясцовая крама, ён гэта ведаў дакладна, сам ператрос, на складзе ўсе куткі, нічога спіртнога не мела ўжо тыдзень. З самагоншчыкамі ў мястэчку было заключана цвёрдае пагадненне, што калі і прадасць хто з іх якую бутэльку, то толькі ўжо ўначы і толькі не механізатарам, занятым на ўборцы льну і бульбы. А мястэчка як з ланцуга сарвалася. Ад ранку баранавалі мясцовы пыл усе спрэс выпівохі. Ды што там баранавалі, большасць з іх адкрыццё крамы, дзе можна было ўсё-такі купіць бутэльку піва, сустракалі ўжо віснучы на платах па ўсіх нешматлікіх вуліцах мястэчка. Палова механізатараў увогуле не падыходзіла да сваіх трактароў, палову інжынер адганяў ад трактароў калом, бо сустрэча агрэгата і яго гаспадара пачыналася з абдымкаў і пацалункаў. Калі ўжо, ідучы ў свой кабінецік, пры пассавеце Альбін угледзеў на перакрыжаванні двух вуліц бабулю Маню і бабулю Франю, што пачалі варагаваць, відаць, яшчэ з часоў Рыжскай мірнай дамовы, убачыў іх у абдымках заплаканых ад шчасця, мурзатых і п'яных - ён зразумеў: катастрофа. Мястэчка правалілася ў нейкае пекла. Але пекла гэта патыхае не смуродам смалы, а самым звычным перагарам.

Вайцецкі ўжо выклікаў з «раёна» аператыўную групу, бо разумеў, што сам з такой атакай па ўсіх франтах не справіцца. А вось і яны. На чале з намеснікам начальніка міліцыі, бадзёрым маёрам.

Адрапартаваўшы, як належыць, участковы расказаў прысутным сутнасць справы.

Задумаліся.

Крама?

-- Ды няма ў ёй нічога, апошняе выграб і ў сумцы дадому занёс. Так што, як скончым работу, можа, павячэраем.

-- Самагоншчыкі?

-- У нас дамова. Яны толькі-толькі новыя заторы расчынілі. Будзе, але гэта тыдні праз два. Ды і не заліюць яны ўсё мястэчка так, каб кожная сабака пад плот валілася.

-- А спіртзавод?

-- На рамонце, большасць рабочых у вымушаным адпачынку. Склады пад пломбамі. Там узяць немагчыма.

-- Ну, а што твае «языкі», «стукачы» гавораць?

-- Таксама п'яныя.

-- Ну вось што, - падняўся маёр, -- зараз жа едзеш на нашай машыне, падбіраеш якога прама на вуліцы, слабейшага выглядай, мы яго тут раскручваць будзем.

Праз хвілін дваццаць участковы і сяржанты з аператыўнай групы прывалаклі ў кабінецік невялікага мужычка. Сарочка і штаны ў таго былі расшпіленыя ад горла і да …, адзін чаравік адсутнічаў, але капялюш чорнага некалі колеру цудам трымаўся на галаве.

-- Дзе знайшлі?

-- Прабіраўся ў бок чыгуначнай станцыі, дзе перабежкай, дзе паўзком.

-- Ну што, алкаш, дзе набраўся? -- пачаўся допыт.

-- Там дзе і ўсе.

-- І дзе ж гэта там?

-- А там! -- мужычок зрабіў такі шырокі замах рукой, паказваючы напрамак, што паваліўся на сяржантаў, што стаялі за ім.

Тыя не надта ветліва паставілі яго на ногі, са два разы трасанулі так, што ўсе косці мужычка пачулі адна адну.

Доўга біліся з мужычком, але той трымаўся, альбо проста не мог ужо вымавіць адказу на пастаўленыя пытанні. Урэшце папрасіў вады. Выпіўшы сквапнымі, вялікімі глыткамі кубак, ён на вачах зніякавеў, пачаў закатваць вочы.

-- Ага, -- сказаў вопытны Вайцецкі -- так бывае пасля спірту, адразу забірае і ад вады.

-- І пра нейкую цыстэрну ён спрабаваў спяваць, што нейдзе знайшлі. Ёсць такая песня ў забулдыг.

-- І поўз у бок станцыі.

-- Едзем на станцыю.

***

З троіцы Мар'ян прачнуўся першы, расштурхаў сябрукоў.

-- Дзе мы?

Кругом цемра. Але ўверсе, на насыпу яўна чарнела запаветная цыстэрна.

-- Дзе мая біклага?

Але ёмістасці нідзе не было.

Сяргей намацаў каля сябе нейкую бляшанку. У ёй яшчэ булькала.

-- Ого, хлопцы, жывём.

Але тут іх целы асвяцілі ліхтары.

-- Таварыш маёр, тут яшчэ трое. І нібыта кратаюцца.

## Дзень трэці

Раніцою пакойчык участковага інспектара ўжо не мог змясціць усіх, хто прыбыў праводзіць аперацыю, якой і далі такую ж назву «Цыстэрна». Размясціліся ў зале пасаджэнняў мясцовага Савета. Высокі чын, які цяпер узяў на сябе кіраўніцтва быў нешматслоўны:

-- Той дзесятак абармотаў, якіх мы падабралі ля цыстэрны і па хмызняках вакол, у разлік не ідуць. Яны толькі пілі. А вось куды падзелася амаль трэць цыстэрны спірту вышэйшага гатунку -- трэба высветліць нам.




-- А як жа поўная цыстэрна вярнулася назад? - пачулася з залы нясмелая рэпліка.

Высокі чын глянуў строга:

-- Там таксама будуць разбірацца. Магчыма, наша абыякавасць, а, магчыма, што іншае. Нам жа шукаць тут.

-- Паспрабуй пашукай, калі ўсе ўжо пазакопвалі, пахавалі. І на канях вазілі, і на матацыклах, ды і аўтамабільныя сляды ёсць.

-- Будзем шукаць!

-- Мой дзядуля расказваў, што немцы прымянялі ваду : разліюць у панадворках -- там дзе яма была, вада прасочваецца хутчэй.

-- Цяпер жа бульбу капаюць, усе гароды перакапаныя.

-- А калі жалезным прэнтам?..

-- Размовы і прапановы будуць потым. Зараз трэба ўтварыць групы пошуку, каб ахапіць усё мястэчка.

-- Дазвольце слова, -- узняўся Вайцецкі, -- прапаную тэрмінова завесці ў нашу краму і гарэлку, і віно. Я прасачу: хто кінецца купляць -- згаладаліся людзі па спіртному. Ну а хто не пойдзе купляць - тых на аловак у першую чаргу.

-- Што ж, слушная прапанова. А як там палявыя работы?

-- Ды яны да белых мух будуць з тым ільном калупацца.

-- Завозце.

Першая ўдача чакала атрад пошуку, які ўзначальваў участковы. Ды і што казаць, быў у яго нюх на мясцовых людзей, ведаў бадай што кожнага. Дварышча Пятра Вайшкуна абследавалі доўга, перарылі ўсё ў хаце, у гаспадарчых пабудовах. Пуста. «Няўжо Пятро не падцікаўся да дармавінкі, -думаў Вайцецкі, -- не той чалавек. Сам з чаркай асцярожны. Але, каб такое ўпусціць…»

Ды няма нічога - і ўсё тут. Зайшоўшы яшчэ раз у паветку, участковы ў каторы раз адразу ад дзвярэй вымушаны быў саступіць убок, да сцяны. Пасярод памяшкання была насыпана вялікая куча жыта.

-- Яшчэ зерне не спарадкаваў, сухое ж, -- кінуў ён гаспадару. Той прамаўчаў. Ведаў, што шукаюць міліцыянеры. Хоць і шукаюць без санкцыі пракурора, але не прычэпішся: тут жа пажарная ахова, якая правярае нібыта правілы пажарнай бяспекі.

-- Чаму зерне не парадкуеш, кажу.

-- А зерне, дык няма куды сыпаць, багаты ўраджай.

-- А вунь куфар, - кінуў Вайцецкі на вялізную скрыню, якія называюць у гэтых мясцінах куфрам. Раней у іх жанчыны збіралі пасаг, адзенне, бялізну, выходзячы замуж, маладзіца так і цягнула гэту скрыню з пасагам у хату мужа. Цяпер жа такія куфры выдатна выкарыстоўвалі для захоўвання зерня. Усе дошчачкі ў іх былі падагнаныя шчыльна. Ніякая мыша не залезе.

-- Дык поўненькі ж і той куфар. Багаты, ай, багаты сёлета ўраджай.

Нешта ў голасе гаспадара падалося падазроным. А тут і лейтэнанцік з райцэнтра нахіліўся да куфра: «Пахне тут неяк, асабліва».

-- А ну, паглядзім, якое ты зерне ў куфар засыпаў.

Калі лейтэнант скінуў нейкае ламачча, што ляжала на куфры, з цяжкасцю падняў важкае вечка добрага старога дрэва, гаспадар, апусціўшы галаву сеў у кут прама на пакладзеныя там хамуты. Куфар да краёў бўў наліты спіртам.

-- І не кроплі ж не выцекла, -- здзівіўся лейтэнант.

-- Ты паглядзі, ён унутры цэлафанавую плёнку засцяліў. Дзе тут выцячэ.

Калі пачалі складаць пратакол, Вайшкуна забрало.

-- А чаму ў мяне. Колькі я тут узяў. Вунь людзі бралі, дык бралі. А іх жа ніхто не чапае.

-- Хто? - адразу падсеў да яго следчы з раёна.

-- Генюсь вунь за канавай бочку закапваў, вялікая бочка…

Вось так справа і пайшла. Калі знаходзілі нешта ў суседа, таго брала крыўда, а то і закрадвалася падазрэнне, што нехта на яго падказаў. У сваю чаргу са злосці і адчаю, ён пачынаў даводзіць на новага суседа. Ланцужок выцягваўся лёгка. Высокі чын у рэшце рэшт нават пажартаваў. От, дзякуй нябожчыку Сталыпіну. Разгарнуў ён у вёсцы кругавую паруку. Цяпер нам працаваць тут - адно задавальненне. Толькі знайдзі адну нітачку і пацягні.

Завіталі ў рэшце рэшт і ў хату да Мар'яна. Ён, як паднялі іх тады ля чыгуначнага насыпу, прыцягнуўся дадому і рэшту начы, увесь дзень адсыпаўся. Калі прыйшлі з вобыскам ледзь змог сесці на лаве, панура сказаў:

-- Шукайце, недзе было.

І шукалі. І нешта там знайшлі. У недапітым вядры, у глечыках, слоіках, нават у чыгунах, у якіх нябожчыца маці некалі варыла бульбу і мяшанку свінням. Злілі знойдзенае, склалі пратакол. Мар'ян распісаўся.

-- Хоць на пахмелку плісніце, -- папрасіў.

-- Ідзі ў краму, там ужо завезена.

Можа і сапраўды схадзіць у краму ці лепш да Веркі. Ёй жа бульбу таксама трэба будзе адорваць. Можа, дасць наперад.

Мар'ян выйшаў на панадворак. Ці ўжо прыцямнела так, ці ў вачах ад гэтай гары цёмна. Трэба хоць вочы прамыць. Ён падышоў да рукамыйніка, што вісеў у двары шчы на плоце. Ці ёсць тут вады. Зазірнуў - поўны.

Мар'ян падставіў рукі, націснуў на стрыжань. У жменю пырснула халодная вадкасць. Ён кінуў яе ў твар. Вочы і вусны апякло. У нос ударыў знаёмы пах. Бач ты, і сюды наліў па п'янцы. Ото, добра, ото пашэнціла.

А ля тоны ўкрадзенага спірту ў мястэчку так і не знайшлі. Мужыкі ля крамы, абмяркоўваючы падзеі апошніх дзён, пасмейваліся. «Лясы ў нас вялікія, партызанскія». Так і не даведаліся яны, чаму вярнулася ў іх мястэчка нераскачаная цыстэрна. Ды чаго толькі не бывае на гэтым свеце.

Мар'ян, як і некалькі іншых нягеглых местачкоўцаў, атрымаў свой год папраўчых работ за раскраданне сацыялістычнай маёмасці.

*Алесь Касцень*

Да 80-годдзя з дня нараджэння Лявона Луцкевіча

# Улюбёны ў Беларусь

**Лявон Антонавіч Луцкевіч быў адным з самых вядомых віленскіх беларусаў. Ён выступаў на канферэнцыях, святах, вадзіў па роднаму гораду экскурсіі, паказваў прыезджым невядомую ім, беларускую Вільню.**

**Яшчэ зусім нядаўна, у сакавіку 1997 года, беларуская грамадскасць шырока адзначала 75-годдзе з дня яго нараджэння. Таварыства беларускай культуры, Таварыства беларускай школы ў Літве, рэдакцыя газеты "Рунь" павіншавалі шаноўнага юбіляра з 75-годдзем, пажадалі яму моцнага здароўя, доўгіх гадоў жыцця, плённай творчай працы. Але лёс, на жаль, распарадзіўся інакш. 28 ліпеня 1997 года пасля цяжкай хваробы Лявон Луцкевіч памёр...**

Нарадзіўся ён 17 сакавіка 1922 года ў Вільні, у сям'і выдатнага грамадскага, культурнага і палітычнага дзеяча, аднаго з пачынальнікаў беларускага нацыянальнага адраджэння Антона Луцкевіча.

Вучыўся Лявон Луцкевіч у славутай Віленскай беларускай гімназіі, якую закончыў у 1937 годзе. Потым вучыўся ў Віленскай тэхнічнай школе, дзе атрымаў спецыяльнасць электратэхніка ў 1940 годзе. Пасля арышту бацькі ў 1939 годе жыў разам са старэйшым братам Юрыям у Коўне, дзе ім дапамагаў Клаўдзій Дуж-Душэўскі.

У гады Другой сусветнай вайны, разам з братам Юрыем Лявон Луцкевіч актыўна ўдзельнічаў у адбудове нацыянальнай школы ў Беларусі. Спачатку яны працавалі настаўнікамі ў Радашковічах і Сыцэвічах. Са снежня 1943 года Лявон Луцкевіч працаваў дырэктарам Мастоцкай школы ў Баранавічах.

Пасля вайны Лявон і Юрый Луцкевічы працавалі ў Варшаве, у Бюро адбудовы сталіцы. Тут у 1945 годзе браты былі арыштаваны бальшавіцкімі уладамі і перавезены ў Мінск. Іх абвінавачвалі ў тэрарызме, у падрыўной дзейнасці супраць СССР. Яны былі асуджаны на 15 гадоў зняволення ў лагерах. Лявон Луцкевіч, прайшоўшы праз многія лагеры, апынуўся на Калыме ў пасёлку імя Матросава. Тут ён 7 гадоў працаваў на залатых рудніках. Як элекратэхнік па спецыяльнасці, ён дзяжурыў на падстанцыі, якая забяспечвала капальню электраэнергіяй. На Калыме Лявон Луцкевіч аднойчы спаткаў свайго брата Юрыя. Гэта быў сапраўдны цуд. Пасля хрушчоўскай "адлігі" ў 1957 годзе браты Луцкевічы былі вызвалены з лагеру і вярнуліся ў Вільню. Жыць ім у горадзе не дазволілі. Яны знайшлі месца ў невялікім гарадку Лентварысе недалёка ад Вільні. Лявон Луцкевіч працаваў на электрафікацыі калгасаў у Тракайскім раёне. Потым працаваў на заводзе жалезабетонных канструкцый намеснікам галоўнага інжынера-энергетыка. На пенсію выйшаў у 1982 годзе, але працаваў яшчэ на гэтым жа заводзе пяць гадоў. Як піша жонка Івана Луцкевіча Галіна Антонаўна Войцік, у пасляваенны час у Вільні не было ніякага беларускага грамадска-культурнага жыцця. Нямногія беларусы, што ўцалелі пасля бальшавіцкіх «чыстак» -- Шнаркевічы, Каралі, Марыя Паўловіч, Пётра Сергіевіч, Людвіка Войцік (Зоська Верас) і іншыя – у той час нават не сустракаліся.



У канцы 50-х гадоў з лагераў вярнуліся Антон Шантыр, Зоя Каўшанка, Янка Шутовіч, Янка Багдановіч, Алена Сакалова-Лекант, Адольф Клімовіч. Яны пачалі збірацца то ў Зоські Верас, то ў Луцкевічаў, то ў Зоі Каўшанкі, то ў Каралёў.

Пад уплывам сваёй цешчы Людвікі Антонаўны Войцік (пісьменніцы Зоські Верас) Лявон Луцкевіч пачаў збіраць матэрыялы па гісторыі беларускага грамадскага і культурнага жыцця ў міжваенны час у Вільні і Заходняй Беларусі, вывучаў мясціны Вільні, звязаныя з гісторыяй беларускага нацыянальнага руху, цікавіўся гісторыяй і архітэктурай гэтага старажытнага горада.

Матэрыялы даследаванняў Лявона Луцкевіча часта з'яўляліся ў перыядычным друку Літвы і Беларусі. Пазней па радыё "Свабода" перадаваліся яго "Вандроўкі па Вільні", "Партрэты віленчукоў" і "Весткі з Віленшчыны". Здавалася, што ўсё ў яго ішло добра. Але ў 1983 годзе ва ўсіх беларускіх газетах , а пасля і ў літоўскіх з'явіўся артыкул-пасквіль М. Сташкевіча "Людзі з мінуўшага", у якім абліваліся граззю Антон Луцкевіч і яго ныя сыны Юрый і Лявон. Лявона Луцкевіча (ён быў ужо на пенсіі) звольнілі з працы. Ад яго адвярнуліся некаторыя сябры, баючыся за сваю кар'еру. Калі ў 1988 годзе была зарэгістравана першая беларуская суполка "Сябрына", дык у Вільнюскім гарвыканкаме яе арганізатарам было сказана: "Толькі без Луцкевічаў!" Лявон Луцкевіч, каб не пашкодзіць справе, адыйшоў у цень. Пасля ён уклаў шмат працы ў арганізацыю Таварыства беларускай культуры.

З 1989 года Лявон Луцкевіч пачаў беларускія перадачы на літоўскім радыё, якія вёў будучы ўжо вельмі хворым.

Лявон Луцкевіч лічыўся ў Літве экспертам па беларускіх справах. Да яго звярталіся за кансультацыямі ўрадавыя структуры Літвы.

Шмат пісаў Лявон Луцкевіч артыкулаў, якія друкаваліся ў Беластоцкай "Ніве", "Беларускім календары" ў Польшчы, на беларускай старонцы газет "Эхо Литвы", "Kurier Wilenski", у "Нашай Ніве", "Руні".

Ён браў удзел у Першым з'ездзе беларусаў свету, арганізоўваў Першы з'езд беларусаў Літвы, Латвіі і Эстоніі. Лявон Луцкевіч быў намеснікам старшыні Міжнароднай асацыяцыі беларусістаў Літвы, старшынёй Таварыства беларускай школы, сакратаром Таварыства беларускай культуры. Ён праводзіў заняткі са студэнтамі беларускага аддзялення Віленскага педуніверсітэта, перапісваўся з многімі беларускімі пісьменнікамі, дзячамі беларускай культуры, ахвотна прымаў у сябе дома гасцей з Беларусі і іншых краін. Ён даваў парады, дапамагаў, чым мог, знаёміў усіх са сваім багатым архівам, кнігамі, альбомамі.

Лявон Луцкевіч падрыхтаваў да выдання сваю кнігу "Вандроўкі па Вільні", якая выйшла ў 1998 годзе. Я добра ведаў Лявона Антонавіча Луцкевіча. На працягу 10 гадоў (з 1980-га па 1990 год) у час канікулаў і летняга водпуску прыязджаў у Вільню, каб папрацаваць у архівах і славутых бібліятэках сталіцы Літвы. Калі не знаходзілася месца ў гасцініцы, то яе замяняла кватэра Лявона Антонавіча.

У чэрвені 1985 года Лявон Луцкевіч з групай навукоўцаў з Вільні пабываў у Браславе, Шаркоўшчыне, Германавічах, Лужках, Глыбокім. Госці наведалі ў Германавіцкай сярэдняй школе гісторыка-краязнаўчы музей, які толькі пачаў ствараца. Яны далі цікавыя і карысныя парады па стварэнні музея мастацтва і этнаграфіі імя Язэпа Драздовіча. І вось ужо 10 гадоў гэты музей працуе ў Германавічах.

Як пісала Галіна Антонаўна, жонка Лявона Луцкевіча, у дзень пахавання развітацца з ім прыйшлі не толькі віленскія беларусы. Прыехалі дэлегацыі з Беларусі ад розных палітычных і грамадскіх арганізацый. Былі прадстаўнікі афіцыйных літоўскіх уладаў і партый.

Пахаваны Лявон Луцкевіч на старых Віленскіх могілках Росы, на так званай літаратурнай горцы, там, дзе стаіць помнік яго бацьку Антону і дзядзьку Івану Луцкевічам. Тут жа недалёка помнікі Францішку Аляхновічу, Казіміру Сваяку, Альбіну Стэповічу, Вітан-Дубейкоўскаму...

*Кліменцій Кажан*

# Калі прыйшло на Беларусь хрысціянства?

Першыя хрысціянскія місіянеры з'явіліся на Беларусі, відаць, яшчэ ў IX стагоддзі. Іх станавілася тым больш, чым хутчэй прымалі веру Хрыстову суседнія еўрапейскія народы. Адным з такіх місіянераў быў ісландзец Торвальд Вандроўнік, які ў X стагоддзі прапаведаваў хрысціянскія ідэі ў Полацку і пазней быў пахаваны тут у заснаваным манастыры Іаана Прадцечы.

Хрысціянамі былі нашы славутыя валадары: княгіня Рагнеда (у манастве Анастасія), яе сын Ізяслаў і ўсе наступныя полацкія князі. Хрысціянства ішло на Беларусь як з Захаду (з Рыма), так і з Усходу (з Канстанцінопаля), хоць да сярэдзіны XI стагоддзя істотнай розніцы паміж гэтымі дзвюма плынямі не было.

Каля 992 года была заснаваная Полацкая епархія (у далейшым праваслаўная), на пачатку XI стагоддзя — Тураўская (каталіцкая). Першы полацкі епіскап, пра якога згадвае летапіс, быў Міна (1104 год). Але, пэўна ж, былі святары і да яго, у тыя часы, калі полацкі князь Усяслаў Чарадзей збудаваў у нашай старажытнай сталіцы бажніцу Святой Сафіі (1055 год).

Хрысціянства на Беларусь прыйшло ў тым жа часе, як і ў многія іншыя краіны Еўропы (Данію, Швецыю, Нарвегію, Польшчу, Харватыю). Панавальнай жа рэлігіяй яно зрабілася толькі ў канцы XII — XIII стагоддзяў, бо сутыкнулася на Беларусі з моцнымі паганскімі (язычніцкімі) традыцыямі. Тысячагадовае суіснаванне ў нас паганства і хрысціянства сталася падставаю для верацярплівасці, талерантнасці нашага народа да розных рэлігіяў.

*К. Тарасаў*



# Якіх славутых людзей дала свету Беларусь?

Беларуская зямля нарадзіла шэраг выдатных дзеячоў, якія праславіліся далёка за яе межамі. Гэта Казімір Семяновіч, вынаходнік шматступеневай ракеты, і Якуб Наркевіч-Ёдка, адкрывальнік электраграфіі і бяздротавай перадачы электрычных сігналаў; Ігнат Дамейка, народны герой Чылі, даследнік яе прыродных багаццяў, заснавальнік універсітэта ў Сант-Яга, і Герман Мінкоўскі, выдатны нямецкі матэматык і фізік; Аляксандар Кавалеўскі, які даказаў эвалюцыйнае адзінства хрыбетных і бесхрыбтовых жывёлаў, бліскуча пацвердзіўшы гэтым тэорыю Ч.Дарвіна, і ягоны брат Уладзімір Кавалеўскі, заснавальнік эвалюцыйнай палеанталогіі; Бенядзікт Дыбоўскі, які ўпершыню апісаў жывёльны свет Байкала, Амура, Камчаткі, і Ян Чэрскі, геолаг, даследнік Усходняй Сібіры, імем якога названая горная сістэма («хрыбет Чэрскага»); Тадэвуш Касцюшка, нацыянальны герой Злучаных Штатаў Амерыкі, змагар за іх незалежнасць, і Жыгімонт (Зыгмунт) Мінейка, нацыянальны герой Грэцыі, удзельнік барацьбы супраць турэцкіх захопнікаў; Аляксандар Булатовіч, герой вайны Абісініі (Эфіопіі) з італьянскімі каланізатарамі, і Мікалай Судзілоўскі, прэзідэнт сената Гавайскіх астравоў; Леў Арцімовіч, выдатны вучоны ў галіне кіравання тэрмаядзернага сінтэзу, і Аляксандар Чыжэўскі, заснавальнік геліябіялогіі; Аляксандар Маліноўскі, які сваёй працай стварыў падмурак новай навукі - кібернетыкі, і Оскар Мілаш, французскі і летувіскі пісьменнік.

Беларусь дала свету выдатных паэтаў -- Міколу Гусоўскага, Яна Вісліцкага, Адама Міцкевіча, Францішка Багушэвіча, Янку Купалу, Якуба Коласа, Максіма Багдановіча; кампазітараў - Міхала Клеафаса Агінскага, Міхаіла Глінку, Станіслава Манюшку, Мікалая Рымскага-Корсакава, Змітра Шастаковіча, Ігара Стравінскага; мастакоў -- Казіміра Малевіча, Вітаўта Бялыніцкага-Бірулю, Язэпа Майсеенку, Рамана Семашкевіча, Уладзіслава Стрэмінскага, Георга Ніскага, Надзею Хадасевіч-Лежэ; асветнікаў і філосафаў -- Еўфрасінню Полацкую, Кірылу Тураўскага, Кліма Смаляціча, Сымона Буднага, Васіля Цяпінскага; першадрукара Усходняй Эўропы Францішка Скарыну, першадрукароў у Расеі Пётру Мсціслаўца ды Івана Фёдарава, які распачаў таксама кнігадрукаванне на Украіне, лонданскага першадрукара Яна Ліцьвіна.

Са старадаўніх беларускіх родаў паходзяць і такія вядомыя ўсяму свету людзі, як матэматык Соф'я Кавалеўская (Корвін-Крукоўская), падарожнік Мікалай Перавальскі (Пржэвальскі), паэт Гіём Апалінэр (Кастравіцкі), авіяканструктар Павел Сухі, пачынальнік лялечнай анімацыі (мультыплікацыі) Уладзіслаў Старэвіч. Беларускага паходжання таксама першая ў свеце касманаўтка Валянціна Церашкова, касманаўты Пётра Клімук і Уладзімір Кавалёнак.

*А.Мальдзіс*

# 1 красавіка — дзень смеху

## З гісторыі свята

**Існуе некалькі версій нараджэння гэтага вясёлага свята. Адны лічаць, што гэта напамін аб старажытным свяце вясны, якое адзначалі ў красавіку і суправаджалі гульнямі і жартамі. Другія лічаць, што звычай ставіць у смешнае становішча сваіх сяброў і знаёмых нарадзіўся ў сярэднявеччы.**

**Дзень жартаў і смеху святкаваўся яшчэ ў Старажытным Рыме. Называўся ён святам "глупцов".**

У Францыі дзень падману называецца **красавіцкая рыба**, ён з"явіўся ў 1564 годзе, калі Карл IX перанёс святкаванне Новага года з 1 красавіка на 1студзеня. Шмат каму гэта не спадабалася, і на наступны год яны віншавалі адзін аднаго з Новым годам 1 красавіка, што ўспрымалася як розыгрыш. Паступова гэтыя розыгрышы ператўварыліся ў традыцыю і далі пачатак новаму святу. Адзін з самых "крутых" розыгрышаў у Францыі адносіцца да 1 красавіка 1986 года, калі на старонках газеты «Парызьен» з'явілася паведамленне аб рашэнні парыжскага муніцыпалітэта разабраць Эйфелеву вяжу. Меркавалася перавезці яе ў даліну ракі Марны, у 30-ці кіламетрах ад сталіцы, дзе будзе пабудаваны вялікі парк атракцыёнаў "Диснейленд" па згодзе з кіраўніцтвам амерыканскай кампаніі. У паведамленні былі падрабязна апісаны работы па дэмантажу вяжы з дапамогай верталётаў амерыканскай марской пяхоты. Сабраць вяжу планіравалася ў гарызантальным становішчы, затым яе павінны былі падняць кранамі. Ажыццяўленне праекта павінна было заняць палову года.

Расхваляваныя парыжане дапякалі рэдакцыю, тэлефоны надрываліся ад званкоў. Толькі на наступны дзень газета астудзіла запал чытачоў. Яна паведаміла , што ўсё гэта – першакрасавіцкі жарт.

Не менш пацярпелі ў 1860 годзе і даверлівыя лонданцы. Шмат з іх напярэдадні 1 красавіка атрымалі пячатныя запрашэнні на "...урачыстую цырымонію ўмывання белых ільвоў", якая адбудзецца ў Тауэры ў 11 гадзін першага красавіка. У назначаны час тоўпы цікаўных асаджалі вароты Тауэра, і якое ж было іх расчараванне, калі яны даведаліся, што гэта толькі першакрасавіцкі жарт... У Англіі гэта свята мае назву Дзень усіх дурняў.

У адной з вядучых газет Англіі 1красавіка была апублікавана рэклама кругасветнага вандравання ўсяго за 200 фунтаў. Не менш праўдзіва гучала і паведамленне вядомага тэлекаментатара, які прапагандаваў тэлефільм аб незвычайна доўгіх італьянскіх спагецці, якія растуць на дрэвах. Ці трэба казаць, што ад званкоў у студыю не было адбою?

Дарэчы, у Англіі час розыгрышаў абмежаваны— толькі да 12 гадзін дня.

У Расіі жартамі святкавалі першае красавіка прыдворныя-іншаземцы, Пятру I спадабаўся гэты звычай. "Жарты нямала забаўлялі і цара, і кожны год ён выдумываў у гэты час штонебудзь падобнае",— пісаў адзін з яго сучаснікаў. У 1700 годзе адзін утрымальнік трупы факіраў абвесціў масквічам, што ён залезе ў шкляную бутэльку. Народ пайшоў у тэатр. Калі паднялі заслону, людзі ўбачылі на сцэне бутэльку з надпісам "Першае красавіка". Так свята пачало распаўсюджвацца сярод рускіх.

У гэты дзень пажадаем адзін аднаму як мага часцей смяяцца, і ва ўсе астатнія дні таксама. Па меркаванню медыкаў, смех дабратворна ўздзейнічае на фізічны стан чалавека, здымае напружанне, зніжае крывяны ціск, працягвае жыццё. Нарвежскія вучоныя лічаць, што тры хвіліны жарту роўныя пятнаццаці хвілінам фізічнай зарадкі.

## "Ці ёсць у Вас пачуццё гумару?"

**Не шмат людзей могуць прызнацца, што ў іх няма пачуцця гумару. Але ці так гэта на самой справе? Давайце праверым. На кожнае пытанне адказвайце "так" або "не".**

1. Ці любіце Вы смяяцца?
2. Ці ўмееце Вы з гумарам выходзіць з непрыемнага становішча?
3. Ці згодны Вы з думкай, што шлюб – самая смешная рэч у свеце?
4. Ці смяецеся Вы сам-насам, калі чытаеце або глядзіце па тэлебачанню што-небудзь смешнае?
5. Калі Вы заўважылі, што Вас падманваюць, ці зможаце Вы не звярнуць на гэта ўвагу?
6. Ці расказваюць Вашы родныя, сябры анекдоты, вясёлыя гісторыі?
7. Калі Вы знаходзіцеся ў кампаніі, то ці жадаеце выглядаць самым разумным, быць у цэнтры ўвагі?
8. Калі Вы ў дрэнным настроі, ці раздражняе Вас смех акаляючых?
9. З усіх жанраў ці аддаеце Вы перавагу камедыі?
10. Ці лічыце Вы сябе чалавекам з пачуццём гумару?

Калі Вы адказалі "так" на **шэсць і больш пытанняў**, то ў Вас з пачуццём гумару ўсё ў парадку. І гэта дапамагае нават у самыя цяжкія хвіліны жыцця.

Калі ж у Вас **пяць і менш адказаў** "так", то з пачуццём гумару ў Вас не вельмі добра. Але ж усмешка, смех – гэта паказчык здароўя, стабільнасці, поспехаў у жыцці. З імі лягчэй пераадольваць непрыемнасці. Паспрабуйце змяніць сябе і паглядзець на жыццё са смешнага боку, не прымайце ўсё надта сур'ёзна, да чагосьці стаўцеся лягчэй – далёка не ўсё ў жыцці каштуе сур'ёзных перажыванняў.




Малюнак Юрася Лаўцэвіча

## А ВОСЬ ТАК!

Патрасі некалькі разоў бутэльку або слоік з газіраванай вадой і палюбоўна прапануй яе сябру.

Фантан пены забрызгае ўсё навокал, у тым ліку і цябе!

* * *

Прапануй свайму сябру задумаць лік. Няхай ён назаве яго. Прапануй яму паглядзець пад тэлефонам або пад вазай.

Сябра будзе здзіўлены: ён знойдзе паперку з загаданым лікам і прыпіскай: "Я ведаў, што ты задумаеш!"

Разгадка простая: трэба загадзя ў розных месцах раскласці паперкі з лікамі ад 1 да 9 (а можна і больш) і запомніць, дзе што ляжыць.

Тваім "тэлепатычным" магчымасцям няма мяжы!

* * *

Яблык падвешаны на нітцы, якую трымае адзін чалавек.

Другі трымае рукі за спіной і спрабуе з'есці яблык без дапамогі рук.

Канечне, калі яму гэта ўдасца.

## Як сябе правільна паводзіць за святочным сталом

Калі госць за сталом заснуў, яго можна весела разыграць – напрыклад, памяняць месцамі яго відэлец і нож!

Калі Вы яшчэ памятаеце, дзе права, але ўжо не памятаеце, дзе лева, то ведайце, што нож трэба трымаць у першай руцэ справа, а відэлец у другой руцэ справа.

Калі ў час святочнай вячэры вы аказаліся пад сталом, то памятайце, што Вы па-мінуламу з'яўляецеся грамадзянінам сваёй краіны і маеце права выбіраць і быць абраным у органы ўлады...

Калі гаспадары паглядваюць на гадзіннік, то можна спакойна сядзець далей, але калі яны здымаюць гадзіннік, трасуць яго і падносяць да вуха -- пара адыходзіць.

Калі Вы бачыце недалёка ад сябе страву, якая Вас цікавіць, а дацягнуцца не можаце, дастаткова проста пацягнуць крыху настольнік на сябе.

І апошняе: ветлівы госць – не той, які многа з'есць, а той, які не заўважыць, што ўжо няма чаго есці.

## Парады гаспадыням

**1.** 500 г цукерак, якія прызначаны для святочнага стала, вызваліць ад абгортак і з'есці. Абгорткі напоўніць долькамі разрэзанага ластыка, завярнуць і падаць на стол у цукерніцы.

**2.** Гарбату перад падачай на стол не забудзьцеся пасаліць.

**3.** Рыбу можна з'есці задоўга да свята, а вось рыбным шкілетам, абваленым у цесце, трэба зноў прыдаць форму рыбы і запячы іх. Госці будуць задаволены.

**4.** Каб торт быў больш прыгожы і смачны, для аздаблення выкарыстоўваюць цёрты мел.

**5.** Кансістэнцыю садавінагароднінная салаты значна паляпшаюць харчовыя дабаўкі з апілак і стружак.

**6.** Не забывайцеся, што смак стравы залежыць у асноўным не ад таго, як вы яе прыгатавалі,а ад того, наколькі Вы галодныя.

### Анекдот на закуску

**Госця – гаспадыні: -- Пірог быў цудоўны! Праўда, крыху каляны, але смак – дзіўны! Як вы дабіліся, каб пірог не быў крохкі, як гэта звычайна бывае?**

**-Рацэпт тут просты: слой – варэння, слой – фанеры, слой – варэння, слой – фанеры...**

## ПАСМЯЁМСЯ РАЗАМ!

-- Тата. Сёння цудоўны дзень або не?

-- Чаму ты пытаешся аб гэтым кожную раніцу?

-- Ведаеш, наша настаўніца казала, што ў адзін цудоўны дзень яна ад мяне звар'яцее

-- Татачка, дай мне 50 рублёў.

-- Не дам.

-- Ну, канечне, дзяцей жадае мець кожны, але толькі, каб гэта нічога не каштавала.

* * *

Леў сабраў усіх на паляне і кажа:

-- Усе прыгожыя налева, а разумныя – направа.

Усе пачынаюць выстройвацца ў дзве шарэнгі, а малпа мітусіцца то туды, то сюды. Леў ёй:

-- Ты што?

-- Не магу ж я разарвацца.

* * *

Глядзіць "новы беларус" сшытак свайго сына і кажа ў здзіўленні:

- Нічога не разумею. Тут жа напісана – "класная работа", а стаіць"двойка"!

